ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (37) красавік 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

# Хрыстос уваскрос!



Біскуп Алег Буткевіч асвячае стравы на велікодны стол падчас Пасхальнай Вігіліі ў Віцебскай катэдры. *Фота Сержука Серабро*

*“Не бойцеся, бо ведаю, што шукаеце ўкрыжаванага Езуса. Няма Яго тут, бо ўваскрос, як і казаў”*
*Мц 28, 5-6*

**Дарагія браты і сёстры!**

Свята Хрыстовага Ўваскрасення, дзень Светлай Пасхі – гэта падзея, якая не можа пакінуць абыякавым ніводнага чалавека. Тое, што адбылося ў Палесціне каля 2000 год таму, ахоплівае ўсё чалавецтва, выходзячы па-за межы не толькі пэўнай тэрыторыі, але і часу. Здзейснілася прадказанае біблейскімі пракорамі збаўленне чалавека – аднаўленне страчанай праз грэх лучнасці з Богам-Стварцам. Для веруючых гэта падстава да вялікай радасці і матыў існавання. Для няверуючых – адкрытае пытанне і магчымы кірунак пошуку. Але для тых і іншых – гэта прыклад шчырай, бескарыслівай Любові, здольнай ахвяраваць сябе дзеля дабра іншага чалавека. Калі мы здольныя шукаць у сваім жыцці менавіта такую любоў, дабро, справядлівасць, гэта і будзе пошукам Хрыста, Хрыста Ўваскрослага і заўсёды прысутнага сярод тых, хто не закрывае свайго сэрца для праўды.

*“Я ёсць уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, хоць бы і памёр, жыць будзе”* (Ян 11,25). Няхай гэтыя словы Божага Сына заўсёды будуць для вас крыніцай суцяшэння і моцнай надзеі, а спатканне з Уваскрослым Хрыстом у часе Велікодных святаў стане для вас рэчаіснасцю.

**Жадаю кожнаму з вас Божага благаслаўлення і шчырай Велікоднай радасці!**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**



Маленькая Кацярына Звоннік атрымлівае сакрамант Хросту з рук біскупа Віцебскага Алега Буткевіча падчас Пасхальнай Вігіліі ў Віцебскай катэдры. *Фота Сержука Серабро*


**Рэпартаж**
Манахіня “цёця Вераніка”
Старонка 5



**Віцебск**
Біскуп Алег Буткевіч абмыў ногі вернікам
Старонка 3



**Пытанне святару**
Ці можна вянчацца з праваслаўным?
Старонка 6



**Ватыкан**
Чаму спавядаецца Папа?
Старонка 2



**Здароўе**
Пра мікраарганізмы і душу піша ўрач-кардыёлаг Сяргей Кандрычын
Старонка 3





# Чаму спавядаецца Папа?

**Папа Францішак зноў здзівіў людзей. На гэты раз прычынай здзіўлення стала прылюдная споведзь Святога Айца. Ніхто раней не бачыў такой сцэны ў Ватыкане: упершыню Папа Рымскі спавядаўся на публічнай цырымоніі ў базіліцы святога Пятра.**

■ **а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

## “Дзіўны” Папа

Звычайна Папа спавядаецца ў прыватным парадку. Таму такое яго рашэнне было адыходам ад устаноўленых у мінулым традыцый. Цырымонмайстар мансіньёр Гвіда Марыні падчас сумеснай малітвы ў базіліцы св. Пятра 28 сакавіка накіраваў Папу да пустога канфесіянала, у якім ён павінен быў спавядаць вернікаў. Святы Айцец падышоў да канфесіянала, стаў на калені перад святаром і спавядаўся некалькі хвілін, а пасля гэтага пачаў спавядаць вернікаў. Перад гэтым, звяртаючыся да тысячаў паломнікаў, Папа Францішак сказаў: «Хто можа сказаць, што ён не з'яўляецца грэшнікам? Ніхто. Мы ўсе грэшнікі». Яшчэ раней, у лістападзе 2013 г., Святы Айцец падкрэсліў, што споведзь тычыцца ўсіх, у тым ліку святароў і біскупаў. «Нават Папа спавядаецца кожныя 15 дзён, таму што Папа таксама грэшнік. А спаведнік чуе рэчы, якія я яму апавядаю, дае парады і дае мне прабачэнне, таму што мы ўсе маем патрэбу ў гэтым прабачэнні», – сказаў Францішак.

## Ці грашаць святыя?

У шматлікіх людзей факт таго, што Папа спавядаецца, выклікае шчырае здзіўленне. Сапраўды, калі мы называем Папу Святым Айцом, то чаму ён спавядаецца? Хіба ён грашыць? Многіх дэзарыентуе ў гэтым пытанні таксама дагмат пра беспамылковасць Папы. Дык чаму беспамылковы Святы Айцец спавядаецца?

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба правільна зразумець паняцці святасці і папскай беспамылковасці. У Святым Пісанні чытаем: “Ва ўсіх паводзінах будзьце вы таксама святымі на ўзор Святога, які вас паклікаў, бо напісана: “Будзьце святымі, бо Я – Святы”. (1 Пт. 1, 15-16). І разам з тым апостал Ян піша: “Калі мы кажам, што не маем граху, дык падманаваем саміх сябе, і праўды няма ў нас” (1 Ян. 1, 8). Гэтая антыномія – адначасовае спалучэнне паклікання чалавека да святасці з наяўнай грахоўнасцю – стае больш зразумелай на прыкладзе святасці Касцёла. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла вучыць: “Касцёл, які змяшчае ў сабе грэшнікаў, адначасова і святы, і заўсёды патрабуе ачышчэння, нястомна ідзе шляхам пакаяння і абнаўлення. Усе члены Касцёла, уключаючы духавенства, павінны прызнаваць сябе грэшнікамі. Ва ўсіх добрае зерне Евангелля змяшана з кукалем граху да канца часоў. Такім чынам, Касцёл збірае грэшнікаў, ахопленых збаўленнем Хрыстовым, але вечна на шляху асвячэння”.

На агульнай аўдыенцыі 2 кастрычніка 2013 г. Папа Францішак адзначыў: “Касцёл святы таму, што зыходзіць ад Бога, Які святы. Касцёл святы таму, што Езус, Святы Божы, непарыўна злучаны з ім. Ён святы таму, што ім рухае Святы Дух, Які ачышчае, зменьвае, абнаўляе. Ён святы не нашымі заслугамі, але таму, што Бог робіць яго святым: гэта плён Святога Духа і Яго дароў”. “Святасць заключаецца не ў тым, каб рабіць нешта незвычайнае, але ў тым, каб дазваляць дзейнічаць Богу. Гэта сустрэча нашай слабасці з сілай Яго ласкі”. Іншымі словамі, святы – гэта грэшнік, які, вызнаючы сваю слабасць, дазваляе дзейнічаць Богу ў сваім жыцці. Знакава і тое, што ў пісаннях Новага Запавету ўсе паслядоўнікі Хрыстовага вучэння называюцца святымі (гл. Дз. 9, 32, Рым. 12, 13 і інш.). Гэта тыя, пра каго апостал Павел пісаў: “Усе зграшылі і пазбаўлены хвалы Божай” (Рым. 3, 23). Таму першая выснова, якую можна зрабіць – святыя таксама грашаць, а значыць патрабуюць споведзі.

Аднак у выпадку Святога Айца не можам абмяжавацца толькі гэтай думкай, бо дадзены зварот – Святы Айцец – не з'яўляецца выключна сведчаннем прыналежнасці да Хрыстовых паслядоўнікаў. Тут мы маем справу з важнай місіяй, ускладзенай Ісусам Хрыстом на апосталаў і іх наступнікаў.

## Ці можа грашыць беспамылковы Папа?

*Папа Рымскі можа памыляцца ў асабістых выбарах і рашэннях, але, у сілу сваёй місіі, ён ня можа навучаць верных таму, што не адпавядае Божай праўдзе.*

“Як па ўстанаўленню Госпада св. Пётр і іншыя апосталы складаюць адзіны апостальскі сабор, так і Рымскі Пантыфік, наступнік Пятра, і біскупы, наступнікі апосталаў, складаюць адзінае цэлае” (ККК 880). Місія апосталаў і іх наступнікаў – біскупаў – складаецца ў тым, каб навучаць, асвячаць і кіраваць Божым народам, іншымі словамі, дапамагаць людзям станавіцца святымі. У выкананні гэтай місіі асаблівае заданне атрымаў апостал Пётр. А ў яго асобе – усе яго наступнікі: быць ахоўнікамі еднасці Касцёла і чысціні яго веравучэння. Беспамылковасць Папы ёсць дарам Божай ласкі для дабра ўсяго Касцёла. Яна вынікае з сутнасці папскага служэння і тычыцца выключна сферы касцёльнага вучэння, а зусім не асабістага жыцця. Таму Папа Рымскі, як кожны чалавек, можа памыляцца ў асабістых выбарах і рашэннях, але, у сілу сваёй місіі, дзякуючы Божай ласцы, ён ня можа навучаць верных таму, што не адпавядае Божай праўдзе. Пра непамыльнасць Папы можна гаварыць толькі тады, калі Пантыфік звяртаецца да ўсяго Касцёла менавіта як Папа. І менавіта як Папу мы называем яго Святым Айцом.

Папа памыляцца ня можа, але Францішак можа памыліцца, можа зрабіць штосьці няправільна, зрэшты, можа зграшыць, бо ўсе людзі без выключэння “адчуваюць іншы закон, які пярэчыць закону розуму ды бярэ ў няволю закону граху, каторы ёсць у членах” (Рым. 7, 23), “аж пакуль не дойдзем да чалавека дасканалага, да меры веку поўні Хрыстовай” (Эф. 4, 13). Таму Францішак спавядаецца, як спавядаліся ўсе яго папярэднікі, і як будуць спавядацца ўсе яго наступнікі.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ядвіга Саўчанка і малітоўная група** (Глыбокае), **Ніна Яроцкая** (в. Дзешчанка Каралёва, Уздзенскі р-н), **Яніна Дулінец** (в. Радзюкі, Шаркаўшчынскі р-н), **Людміла Кухальская** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **Вацлаў Пашкевіч** (в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Камілія Емяльянава** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Соф’я Машара** (Мёры), М. В. Матус (Валожын), **Аліцыя** (Паставы), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Антаніна Дарашкевіч** (в. Янковічы, Пастаўскі р-н), **Ванда Маслава** (Фарынава), **Бенісія Пачкоўская** (в. Гірстуны, Глыбоцкі р-н), **Галіна Сінкевіч** (Глыбокае), **Ганна Працук** (в. Гірстуны, Глыбоцкі р-н), **Леакадзія Лаўнюжэнка** (в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н), **Лілія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **Феліцыя Небышынец** (в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н), **Вікторыя Свідэрская** (в. Коты, Шаркаўшчынскі р-н), **Даната Унтан** (Паставы), **Вера Шыкшнян** (в. Гірэйшы Браслаўскі р-н), **Яніна Жэмайтэль** (Ліда), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі Шаркаўшчынскі р-н), **Данута Пачкоўская** (в. Савуткі Шаркаўшчынскі р-н), **Аліна Маслоўская** (в. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н), **Генавефа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Вільгельміна Барткевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Таццяна Рамейка** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Сцяпаніда Лупач** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры! Усіх вас віншуем са Святам Вялікадня!**

**Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

**Італія**

# Сямігадовая італьянка стане бласлаўлёнай

**Антаніета Меа, сямігадовая італьянка, неўзабаве стане наймалодшай бласлаўлёнай ў гісторыі Касцёла. Яе адносяць да ліку найвялікшых містыкаў.**

■ **кс. Марыюш Росік**, *niedziela.pl*

Працэс беатыфікацыі Антаніеты, якую таксама ласкава называюць Ненналінай, доўжыўся трыццаць гадоў. Ён быў распачаты ў 1942-ім – праз пяць гадоў пасля яе смерці. Але ў тыя часы Царква не дапускала беатыфікацыі дзяцей, якія памерлі непакутніцкай смерцю. Сітуацыя, аднак, змянілася ў 1981 г., калі Кангрэгацыя кананізацыйных спраў адмяніла гэтую забарону.



*Падчас хваробы шасцігадовая Антаніета напісала каля ста лістоў да Бога*

Ненналіна была жыццярадасным дзіцём. Яе бацькі, людзі глыбокай веры, штодня ўдзельнічалі ў Эўхарыстыі. Першыя словы, якія навучылася пісаць дзяўчынка, былі імёны: Езус і Марыя. Дзяўчынка расла здаровай, нішто не прадвяшчала трагедыі. Аднойчы яна разбіла ў садзе калена аб камень. Боль быў вельмі моцны і пранізлівы. Пачалося вандраванне па бальніцах. Дзіця неаднаразова аперавалі. Медычны кансіліум устанавіў, што цярпенне было выклікана не толькі ўдарам. Ненналіна была хворая на рак. Дыягназ – асцэасаркома – азначаў адно: ампутацыю левай нагі. Калі ўся сям'я была ў роспачы, малая захоўвала духоўны свет. “Я аддала нагу Езусу”, – гаварыла дзяўчынка. Дзякуючы дбайнаму вядзенню запісаў яе мамай мы сёння ведаем дэталёвы працяг наступных працэдур і змаганняў Антаніеты не толькі з хваробай, але і са спакусамі адчаю і страху.

Незадоўга да смерці, пасля чарговай аперацыі, лежачы ў бінтах, Ненналіна прадыктавала апошні ліст да Езуса: “Каханы Езус Укрыжаваны, вельмі Цябе кахаю і вельмі люблю Цябе. Хачу застацца з Табой на Кальварыі і з радасцю пакутую, таму што ведаю, што знаходжуся на Кальварыі. Любы Езус, дзякую Табе, што паслаў гэтую хваробу, таму што яна з'яўляецца сродкам, праз якія я магу зразумець рай”. Богу, Які быў укрыжаваны пасля нечалавечых пакут і Якому крычалі: “Сыдзі з крыжа”! (Мц 27,40) – гэта прызнанне малой дзяўчынкі павінна быць незвычайным падарункам, каторы могуць ахвяраваць Яму толькі святыя.

Падчас хваробы Антаніета напісала каля ста лістоў да Бога, якія багасловы класіфікуюць як экстраардынарныя для шасцігадовага дзіцяці. У першы час яна сама дыктавала гэтыя нататкі сваёй маці, пазней стала пісаць вершы і занатоўкі самастойна, пакідаючы іх у распяцці.

Ненналіна засталася на сваёй Кальварыі да канца. Пастаянна расце колькасць плёну, які нараджаецца з той ахвяры.

# Як Езус...

## Біскуп Алег Буткевіч абмыў і пацалаваў ногі вернікам

**Літургія Вялікага Чацвярга нязвыкла багатая і асаблівая. У гэты дзень Касцёл успамінае ўстанаўленне сакраманту святарства і Эўхарыстыі. Таму менавіта Вялікі Чацвер лічыцца днём святарства. У гэты дзень біскуп Алег Буткевіч маліўся разам са сваімі вернікамі ў віцебскай катэдры.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Іерарх у казанні нагадаў сабраным, што падставай нашай веры ў Боскую Эўхарыстыю з'яўляюцца словы самога Езуса. І яны таксама ёсць сваеасаблівай праверкай нашай пакоры. Разважаючы пра святарства, біскуп заахвоціў прысутных маліцца за святароў, таму што ад іх працы і вернасці свайму пакліканню залежыць збаўленне многіх людзей. "Усемагутны Бог патрабуе слабых чалавечых рук святара, каб нас збавіць", - сказаў пастыр дыяцэзіі.

Біскуп зазначыў, што чалавецтва сёння патрабуе больш знакаў і сведчанняў, чым словаў. Такім знакам ёсць абмыванне ног. На прыкладу Езуса Хрыста біскуп Алег Буткевіч абмыў і пацалаваў ногі дванаццаці вернікам Віцебска. Гэты абрад адбыўся ўпершыню ў Віцебскай катэдры.

Гаворыць Юлія Янушэўская з Наваполацка: "Я ніколі раней не бачыла такога, каб біскуп абмываў ногі вернікам. Мяне вельмі ўзрушыў гэты абрад. Гледзячы на біскупа Алега, я ўяўляла сабе, як Езус абмываў ногі апосталам".

Падчас абраду абмывання ног многія не маглі стрымаць слёз у катэдры. "Я вельмі перажывала гэты момант, - кажа парафіянка касцёла Езуса Міласэрнага Галіна Глод. Справа ў тым, што сярод дванаццаці былі мой муж і сын. Вялікі Пост сёлета быў звязаны з вялікімі выпрабаваннямі ў нашай сям'і. І сёння я раптам зразумела, якія ж нашыя клопаты дробязныя ў параўнанні з тым, што адбылося з Езусам і яго вучнямі".

Спадар Пётр Глод таксама ня можа схаваць свайго хвалявання. "Я першы быў сярод дванаццаці. І біскуп спачатку падышоў да мяне, каб абмыць мне ногі. Я так разгубіўся, што забыўся зняць абутак і не пацалаваў біскупу ў руку, як гэта зрабілі іншыя. Толькі цяпер пасля св. Імшы да мяне паціху даходзіць сэнс таго, што адбылося".




*Падчас абраду абмывання ног многія не маглі стрымаць слёз*

Езус Эўхарыстычны быў перанесены ў Цямніцу на ўспамін Яго арышту і цярпення. Вернікі падходзілі да гэтага месца, каб памаліцца ў цішыні і разважаць пра вялікую ахвяру, якую за нас склаў наш Збавіцель. Наперадзе была Вялікая Пятніца і Вялікдзень.

*"І з намаганнем адкрываем рэчывы гэтае зямлі, і з цяжкасцю разумеем тое, што пад рукамі…"*
*(Мудр. 9:16).*

# Вірусы і душа,

## або Яшчэ адзін роздум пра здароўе

### Божы Провід

Чалавек не блукае па свеце ў адзіноце. Бог кіруе і ўзаемадзейнічае з вянцом свайго тварэння. Гэты працэс няспынна разгортваецца і ў жыцці канкрэтнай асобы, і ў гісторыі ўсяго чалавецтва. Сярод паняццяў, што выкарыстоўваюцца для апісання гэтага працэсу, ключавым з'яўляецца Providentia, або па-беларуску – Провід.

Не будзе памылкаю Провід уяўляць проста як падказку ці бацькоўскае навучанне або перасцярогу: "вярніцеся з ліхіх шляхоў вашых і захоўвайце наказы Мае…" (4 Вал. 17:13).

У цяжкія моманты жыцця мы спадзяёмся на падказкі, якія дапамагаюць рабіць правільны выбар. Але ў якой форме яны адбываюцца, адкуль іх чакаць? Ці заўсёды гэта знакі з нябёсаў? А можа, гэта простыя штодзённыя з'явы, якія ў прамым сэнсе ў нас "пад рукамі" ці нават у нас саміх?

### У чалавечым целе больш мікраарганізмаў, чым клетак

Чалавек не самотны ні ў духоўным, ні ў біялагічным сэнсе. Бывае неяк няёмка ўзгадваць аб тых стварэннях, якія жывуць пад абалонкаю нашага цела. Іх многа, і называюць іх па-рознаму (за язык цягне сказаць, што "…імя ім легіён"). Гаворка ідзе аб тых мікраарганізмах, вірусах і паразітах, якія прыжыліся і выконваюць пэўныя функцыі ў нашых сістэмах і органах. Хтосьці з навукоўцаў прапануе вымяраць іх у кілаграмах, іншыя вызначаюць шырокую відавую разнастайнасць, але найбольш уражваюць колькасныя падлікі: агульная колькасць мікраарганізмаў у арганізме чалавека дасягае 1014 - 1015 мікробных цельцаў, што на 1-2 парадку больш чым саміх клетак чалавечага арганізму (Богадельников, Крюгер, 2012).

*Істотнымі з'яўляюцца не толькі гігіена цела, але і гігіена духу.*

Не варта браць на ўлік усе гэтыя мільёны, можа хапіць і аднаго віруса дзеля вырашэння твайго лёсу. У дадатак, далёка не ўсе патэнцыйна небяспечныя вірусы знаходзяцца ў арганізме гаспадара ў актыўным стане, некаторыя мірна сабе спяць (пэрсістуюць), пакуль іх штосьці не падштурхне да актыўнасці.

Ці варта непакоіцца з-за гэтых істотаў, якія жывуць дзесьці ўнутры, ці аб тых, якія здольныя трапіць у нашае цела і стварыць вялізную калонію? Турбавацца, можа, і варта, але перад гэтым тройчы паўтарыць словы Хрыста: "не тое, што ўваходзіць у вусны, пагандзіць чалавека, але тое, што выходзіць з вуснаў, пагандзіць чалавека". Тройчы!... Менавіта таму турбавацца, а не палохацца.



### Сама Эўхарыстыя немагчымая без мікраарганізмаў

Мяжа паміж светам чалавека і светам мікраарганізмаў даволі ўмоўная, але яна існуе. Тым не менш, хвалі падзей, якія адбываюцца ў свеце мікробаў і вірусаў, нязменна даходзяць да чалавека. Больш за тое, паміж гэтымі сусветамі існуе выразная функцыянальная залежнасць: само існаванне чалавека немагчыма без шырокай апоры на мікраарганізмы. Пытанне: "Ці гэтая залежнасць адносіцца выключна да фізіялогіі нашага цела?"

З тэксту Святога Пісання вядома, што такое "закваска", "дрожджы" ці "браджэнне". Хлеб і віно – прадукты, якія немагчымыя без дзейнасці мікраарганізмаў. Менавіта яны былі вызначаны ў якасці эўхарыстычных "адпаведнікаў" Цела і Крыві Хрыста. Ці гэта простае супадзенне або гэта тая ж "падказка", над якой варта задумацца? Прынамсі, гэтыя нябачныя істоты заслугоўваюць увагі.

Складваецца ўражанне, што мікраарганізмы самі здольныя прымусіць сябе паважаць. Асабліва калі яны вызначаюць ходу гісторыі. І маштабныя эпідэміі – гэта толькі адзін з прыкладаў, але прыклад даволі паказальны. У навуковым асяродку добра вядомая думка пра тое, што мікробы павінны разглядацца ў якасці адной з гістарычных сілаў, што кіруе лёсам цэлых цывілізацыяў (Daimond, 1997; Clark, 2010).

### Мікраарганізмы кіруюць і камандуюць

Здольнасць да зменлівасці мікробаў значна вышэйшая, чым у арганізмаў – прадстаўнікоў макрасусвету. Хуткасць у размнажэнні, гатоўнасць да вокамгненнай экспансіі і шматлікасць формаў існавання забяспечваюць ім устойлівасць наяўнай экалагічнай нішы і паскоранае пашырэнне ў кожнай патэнцыйна іншай. Для чалавека вельмі істотна, што мікраарганізмы не толькі з'яўляюцца прадуктам інтэнсіўнага інфармацыйнага ўзаемадзеяння, папераменна выконваючы то ролю тормаза пры занадта вялікім паскарэнні, то ролю путі пры занадта павольным руху сістэмы ў заўтрашні дзень" (Росторгуев, 1996). Такім чынам, вірусы могуць разглядацца ў якасці самага хуткаснага з нябачных сродкаў кантролю і кіравання.

### Як расцэньваць эпідэмію СНІДу?

Але што гэта за кантроль? Вядома, што мікробы прымушаюць да выканання правілаў гігіены. Істотнымі з'яўляюцца не толькі гігіена цела, але і гігіена духу. Згадаем венерычныя захворванні і СНІД.

Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што шырокая распаўсюджанасць захваральнасці на сіфіліс у Заходняй Еўропе XVI стагоддзя стала прычынаю звароту да строгага выканання рэлігійных нормаў і стварыла падмурак да фармавання пурытанства.

*Выкананне нормаў хрысціянскай маралі застаецца адзіным дзейсным сродкам прафілактыкі многіх хваробаў*

самі хутка рэагуюць на змены вонкавага асяроддзя (уключаючы працэсы ўзнікнення новых біялагічных формаў), але і задаюць кірунак далейшых зменаў, у тым ліку і ў свеце макраарганізмаў, або кіруюць развіццём сваіх "гаспадароў".

Асаблівыя здольнасці да маланкавай у эвалюцыйным вымярэнні зменлівасці дэманструюць вірусы. Яны

А як расцэньваць эпідэмію СНІДу? Можа, гэта інтрыгі злога віруса ці проста "невязуха"? А можа, і гэта падказка?

Парадаксальна, але ўсе гэтыя "гіпотэзы" нічога не вартыя, бо выкананне нормаў хрысціянскай маралі ў кожным выпадку застаецца адзіным дзейсным сродкам прафілактыкі гэтых і многіх іншых хваробаў. А той, хто прапануе дадатковыя "надзейныя" сродкі, часам стварае дадатковыя рызыкі.

Неразумна зводзіць усю гаму ўзаемаадносінаў паміж чалавекам і вірусам толькі да варыянтаў "страшылак", хоць і варта прызнаць іх эфектыўнасць.

### Ці хвароба можа развіць чалавека духоўна?

У час прастуды (віруснай інфекцыі) наш розум працуе па-іншаму, дэманструе незвычайную актыўнасць, якая часам мяжуе з паталагічнай. Дастаткова ўспомніць, якія "жывыя" сны мы бачым падчас хваробы. Нярэдка хвароба з'яўляецца тым этапам у жыцці, калі адбываюцца істотныя змены светапогляду. Так, паводле прызнання вялікага хірурга Пірагова, ён звярнуўся да хрысціянскай веры менавіта ў тыя дні, калі ў трыццацігадовым узросце меў ліхаманку (на фоне сімптомаў грыпу).

А як ставіцца да хваробаў святых? Многія з іх доўга пакутавалі і паміралі ад інфекцыйных захворванняў. Хвароба – гэта заўсёды выпрабаванне, але ў якой ступені і якім чынам яна садзейнічала развіццю чалавека ў духоўнасці?

Зразумела, што адназначных адказаў тут быць не можа, але да разумення праблемы мы ісці павінны натуральна, проста, без празмернай перасцярогі. І шлях да гэтага разумення чалавек павінен прайсці не ў скафандры ці супрацьчумным камбінезоне, а ў даволі простым, штодзённым выглядзе.

Таму, як і было заўсёды, – выбар за Табою! Але не спяшайся, уважліва глядзі сабе пад ногі, каб каго не прыціснуць.

*Сяргей Кандрычын,*
*урач-кардыёлаг*

# Святарскі дзень

**17 красавіка Віцебская катэдра Езуса Міласэрнага сабрала святароў і кансэкраваных асоб з усёй дыяцэзіі, каб у адзінстве са сваім Пастырам распачаць Пасхальны Трыдуум, а менавіта супольна перажыць дзень, калі ўспамінаем таямніцу ўстанаўлення сакрамантаў Святарства і Эўхарыстыі.**

■ **Марына Брылёнак**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Вельмі важнай асаблівасцю св. Імшы Вялікага Чацвера з'яўляецца асвячэнне алеяў, якія будуць на працягу года ўжывацца для ўдзялення сакрамантаў.

Перажываючы Эўхарыстыю, адчуваеш сапраўднае адзінства Каталіцкага Касцёла: еднасць Біскупа і Святароў, а праз іх і еднасць усіх вернікаў парафій, з якіх яны прыехалі. Казанне, што прамовіў кс. біскуп Алег Буткевіч, было прысякнутае клопатам пра святароў. Ён заклікаў усіх вернікаў: "Маліцеся за сваіх святароў! Маліцеся не толькі сёння, але заўсёды. Яны гэтага вельмі патрабуюць!" Таксама, здавалася б, простыя словы, прамоўленыя біскупам ("Святар – гэта той, праз каго Бог раздзяляе свае ласкі"), напэўна, прымусілі задумацца не аднаго прысутнага пра вялікую вартасць і значэнне святарства.

Асаблівa кранальным быў момант, калі пасля казання ўсе святары ўсталі і аднавілі свае абяцанні служэння Богу і паслухмянасць свайму біскупу. Шмат галасоў, як адзін, узносіліся перад алтаром, калі адказвалі на пытанні Пастыра.

Пасля абраду св. Камуніі прысутныя святары выцягнулі свае далоні ў кірунку ўзнесенага збана з алеем, каб усім разам, на чале з біскупам, асвяціць яго малітвай. Як зазначыў сам пастыр, "алей – гэта знак, які павінен нам нагадваць аб вялікім багацці Божай ласкі".




Духавенства Віцебскай дыяцэзіі падчас Святой Імшы Хрызма ў Віцебскай катэдры..

Святкуючы гэты асаблівы для Касцёла дзень, калі ўзгадваем і нанова перажываем таямніцу ўстанаўлення такіх важных сакрамантаў, як Святарства і Эўхарыстыя, нельга не задумацца пра вялікае значэнне прысутнасці сярод нас святароў. Можна шмат разважаць на гэту тэму, але нязменным застанецца тое, што яны займаюць важнае месца як у парафіяльнай супольнасці, так і ў грамадстве. Бо святарская праца – гэта служэнне людзям, дапамога і падтрымка ў цяжкіх сітуацыях, праца з моладдзю і дзецьмі, накіраваная на глыбокае ўкараненне ў іх сэрцах маральных каштоўнасцяў, якія так лёгка заглушаюцца тэндэнцыямі сучаснага свету.

## Ваша Эксцэленцыя, біскуп Алег Буткевіч!

*Ад імя ўсіх парафіянаў катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага хочам шчыра павіншаваць Вас з Днём нараджэння. Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы і цярпення на гэтай нялёгкай дарозе, на якую паклікаў Вас Пан Бог. Крочце па ёй мужна і верна, поўныя Божай мудрасці і святога запалу. Вы аддалі нам усе, як Езус на крыжы, свае маладыя гады, здароўе, здольнасці, сэрца, каб паяднаць і наблізіць нас да Бога. Шчыры Вам дзякуй за гэта!*

*Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуліць Вас да свайго мацярынскага сэрца, хай Езус спашле на Вас сваё блаславенне, а нашая малітва дасць патрэбныя сілы!*

*З павагай і пашанай,*
*вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (Віцебск)*

## Віншуем!

*23 красавіка, у Дзень мучаніка святога Юрыя, наш пробашч Юрый Бараўнёў адзначыць свой Дзень нараджэння. Мы, парафіяне вёсак Крулеўшчына, Барсукі, Порплішча, дзе ў святых храмах нясе службу кс. Юрый, шчыра віншуем яго з гэтай датай, выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве, за ўвагу да кожнага, хто шукае Божай падтрымкі. Нашы вёскі размешчаны далекавата адна ад адной, але ў любое надвор'е, нягледзячы на стомленасць, ён прыходзіць да нас, каб абвясціць Божую любоў, паразважаць пра веру на прыкладзе жыцця святых. Дзякуючы энтузіязму, стараннасці, цярпенню пробашча нашы святыні сталі прыгожымі і ўтульнымі, а мы маем магчымасць узбагачацца духоўна.*

*Зычым кс. Юрыю моцнага здароўя, блаславення Пана, апекі Маці Божай і святога Юрыя, аптымізму, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця.*

*Парафіяне*
*з вёсак Крулеўшчына, Барсукі, Порплішча*

## Ліст у рэдакцыю

**Паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка", шаноўны кс. Віктар Місевіч!**

*Дзякуй вам за вашу працу, за лісты, якія дасылаеце нам, ахвярадаўцам газеты, перад святам Божага Нараджэння і светлым Уваскрэсеннем Хрыста. У гэтых лістах столькі шчырасці і любові да нас, вернікаў. Безумоўна, кожны новы нумар газеты мы чытаем з захапленнем.*

*Віншуем Вас, кс. Віктар, а таксама ўсіх святароў з Днём святарства і са светлай Пасхай. Яшчэ хочацца падзякаваць кс. Марату з парафіі св. Ганны ў в. Мосар за яго навуку, якую адкрывае нам па-новаму, тлумачыць кожнае слова, кожнае прыказанне Божае. Таксама вялікі дзякуй кс. Яну Пугачову з в. Германавічы за праўдзенне трохдзённых рэкалекцый, за шчырую малітву. Усім святарам жадаю ўзаемнай любові, Божай ласкі, здароўя, плёну, поспехаў, цярплівасці да нас, парафіян, бо нас шмат, мы ўсе розныя і многае не разумеем. Хрыстос уваскрос!*

***З павагай, Альбіна з в. Савуткі,***
*ваш падпісчык і паштальён, якая заўсёды прапануе падпісвацца на "Каталіцкі Веснік"*

## Паважаны ксёндз Валеры Орсік!

*З нагоды Дня нараджэння і свята Уваскрэсення Пана дасылаем Вам сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы на кожны дзень святарскай паслугі, людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці. Святы Дух няхай вядзе Вас па Божых сцежках, няхай Маці Божая апякуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а Добры Бог адорвае сваім Айцоўскім благаслаўленнем.*

***Сем'і Снургаш і Рабкоўскіх,***
*г. Бярозаўка (Лідскі раён)*

**Украина**



## Римско-католические епископы выступили за целостность Украины

В связи с последними насильственными действиями на Юге и Востоке Украины, Конференция римско-католических епископов выразила поддержку позиции всех Церквей, которая была высказана в коммюнике ВСЦиРО от 3 апреля.

«Мы осуждаем любые провокации и попытки разжечь вражду на религиозной почве. Еще раз подчеркиваем, что Римско-Католическая Церковь в Украине выступает за целостность Украины. В такое трудное время еще раз отдаем нашу Родину Непорочному Сердцу Марии, которому мы посвятили Украину 20 марта в Харькове. Призываем верующих и в дальнейшем молиться за наше государство», – заявили украинские епископы.

*catholic-media.org*

# Манахіня "цёця Вераніка"

**На чыгуначнай лініі Мінск – Орша за 110 кіламетраў ад Мінска знаходзіцца горад Крупкі, дзе ў дзіцячым садку працуе манахіня Бэрнадэта з ордэна Сясцёр святой Ядвігі ад Беззаганнай Багародзіцы Панны Марыі (ордэн сясцёр-ядвіжанак). Мне стала цікава, як выглядае праца каталіцкай манахіні ў свецкай установе, таму я і накіравалася ў Крупкі.**

**Ірына Грэйць**

Электрычка спынялася на прыпынку Новае Жыццё. Цікавая назва. Яна дае надзею на тое, што жыхары горада маюць такое жыццё, і яно не аддзелена ад Хрыста. Бо, скажам, камуністычная назва адной з папярэдніх станцый – Чырвоны Сцяг – здзіўляе сваёй неактуальнасцю, даўнінай і не дае надзеі на лепшае. Бо толькі з Госпадам жыццё чалавека можа стаць вольным, шчаслівым і радасным.

Адкрытыя на дыялог местачкоўцы патлумачылі, як даехаць да касцёла, і ўжо праз два дзясяткі хвілін я была на месцы. У парафіяльным доме мяне сустрэла сястра Бэрнадэта. У крупскай парафіі яна працуе з 2010 года.

## Педагагічная спецыяльнасць і манаства – гэта Божы дар

Сястра скончыла Салігорскі дзяржаўны педагагічны каледж. Пасля атрымання адукацыі адчула прагу да манаскага жыцця. Стаўшы манахіняй каталіцкага ордэна, завочна навучалася ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка па спецыяльнасці «Дашкольная адукацыя».

Падчас вучобы ва ўніверсітэце здарылася гісторыя, якую заўсёды прыгадвае сястра: «Калі я прыйшла на залік па рэлігіязнаўстве ў манаскім адзенні, то выкладчык-камуніст доўга не хацеў ставіць залік з-за майго знешняга выгляду. І я дзівілася: няўжо ў яго разуменні навука і манаскі выгляд не могуць ісці поруч?»...

Тое, што педагагічная спецыяльнасць і манаская супольнасць з'явіліся ў маім жыцці, сястра Бэрнадэта лічыць вялікім дарам Госпада і праз гэта адчувае вартасць свайго паклікання.

## Сёстры-ядвіжанкі

Ад самага пачатку свайго існавання ў 1859 годзе сёстры-ядвіжанкі надавалі вялікую ўвагу дзецям. У той час малыя найбольш пакутавалі ад маральнай і матэрыяльнай бядоты. І да сённяшняга дня сёстры святой Ядвігі лічаць служэнне тым, хто жыве ў патрэбе, асабліва дзецям, самай важнай справай міласэрнасці, якая павінна здзяйсняцца ў духу Евангелля.

Зараз сёстры працуюць у дзіцячых садках, прытулках, лячэбна-выхаваўчых цэнтрах, праводзяць катэхізацыю, а таксама аказваюць дапамогу ўсюды, дзе яна неабходная. Такога кшталту служэнне манахіні нясуць у Польшчы, Германіі, Аўстрыі, Даніі і Чэхіі. Першыя крокі распачынаюцца і ў Беларусі.



*...адразу глядзелі на мяне, у манаскім адзенні, насцярожана, але пасля сказалі: «Нармальны чалавек!»*

## Любоў да дзяцей

Выйшаўшы за тэрыторыю касцёла, мы накіроўваемся ў дзіцячы садок. Сёння, як і кожны дзень, сястра з ахвотай спяшаецца да дзяцей. «Вельмі люблю свой дзіцячы сад. Калі ўяўляю, што мяне забяруць з Крупак на служэнне ў іншае месца, то разумею: будзе вельмі шкада», – прызнаецца яна ў размове.

У кляштары сястры далі манаскае імя Бэрнадэта. Так яе называюць і ў касцёле. А вось для маленькіх выхаванцаў садка, якім па 2-3 гады, яна проста «цёця Вераніка».

Дзеці з радасцю лашчацца на руках у сястры, дораць шчырыя ўсмешкі. Тыя з іх, хто ўжо досыць добра гаворыць, распавядаюць мне і "цёці Веранiцы" свае цікавыя прыгоды.

«Бацькі ставяцца да мяне вельмі добра. Самае важнае для іх, каб дзеці былі заўсёды дагледжаныя. Канфесія, будзь ты католікам або праваслаўным, не адыгрывае значнай ролі. Мы заўсёды знаходзім узаемапаразуменне», – адзначае сястра.

## Рабочы калектыў

Калі я толькі пачала працаваць у садку, мае каляжанкі заўсёды дапамагалі і давалі парады. Дзіўна было, калі адразу глядзелі на мяне, у манаскім адзенні, насцярожана, але пасля сказалі: «Нармальны чалавек!» – смяецца сястра Бэрнадэта.

Прабыўшы ў групе некаторы час, я заўважыла адну цікавую рэч: сястра Бэрнадэта і яе каляжанка з вялікім цяплом і клопатам ставяцца да дзяцей, разумеючы і адказваючы на іх амаль незразумелую мне мову. Гэта шчырая любоў да дзяцей прыносіць ім паразуменне ў сумеснай працы.

Заканчваецца працоўны дзень. Вяртаючыся ў парафіяльны дом, сястра Бэрнадэта ў сваёй манаскай супольнасці моліцца, каб сваё жыццё сем'і ў Крупках праводзілі з Хрыстом, каб беларускія дзеткі выхоўваліся ў атмасферы любові, дабрыні і сяброўства.

Я ж той самай электрычкай вяртаюся ў Мінск з думкамі пра сястру Бэрнардэту і яе маленькіх выхаванцаў. Прыпынак Новае Жыццё застаецца ўдалечыні, а мяне не пакідае пачуццё радасці і супакою ад гэтага візіту. Хочацца спадзявацца, што прыклад сястры Бернадэты заахвоціць кіраўніцтва іншых беларускіх садкоў і прадстаўнікоў манаскіх супольнасцяў разам працаваць у сферы выхавання і адукацыі.



### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем нашага ксяндза Юрыя Бараўнёва з Днём нараджэння і Днём Анёла, які прыпадае на 23 красавіка. А таксама віншуем са святам Змёртвыхпаўстання Езуса Хрыста.*

*Хочам пажадаць кс. Юрыю моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Зычым апекі ўсіх святых і Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Духа Святога. Няхай сэрца нашага ксяндза будзе напоўнена вялікай радасцю. Мы складаем яму вялікую падзяку за нялёгкую працу на духоўнай ніве, за старанне, вытрымку, цярплівасць да нас, людзей старэйшага ўзросту, да моладзі і дзяцей, да ўсіх, каму патрэбная падтрымка і дапамога. У нашага святара на ўсё хапае часу і сілы. А мы ў сваю чаргу будзем заўсёды памятаць яго ў сваіх малітвах.*

*Ад імя парафіянаў касцёла Маці Божай Каралевы Кароны Польскай з аграмястэчка Порплішча і навакольных вёсак,*
***Нарбэрта Камянецкая***

### Поздравляем!

*В костёле Святой Троицы в Глубоком служат два ксендза, которые раньше работали в нашем приходе. Это кс. Мечислав Янчишин и кс. Славомир Самкович. Они очень много сделали для нашего прихода, за что мы им от всей души благодарны. Стараниями кс. Мечислава были построены капличка и костёл Святой Троицы, а кс. Славомир начал строительство очень красивого костёла Петра и Павла в Бешенковичах. Мы их никогда не забудем и хотим поздравить с праздником Пасхи.*

*Поздравить Вас хотим от всей души и сердца*
*Со светлым праздником Воскресшего Христа!*
*Пусть в этот день ликует Ваше сердце*
*И радостью наполнится душа.*
*Пусть Бог благословляет Вас в дороге,*
*Пусть счастье, радость будут с Вами навсегда!*

***Аглушевич Марина**, д. Николаево*

### Віншуем!

*З нагоды Дня нараджэння, які святкаваўся 11 краса-віка, жадаем кс. пробашчу Сяргею Сурыновічу моцнага здароўя, Божага бласлаўлення на святарскім шляху. Няхай Дух Святы напаўняе Вас сіламі, цярпеннем і глыбокай верай у Хрыста, Які спрыяе ажыццяўленню планаў. Няхай будзе для Вас, ксёндз Сяргей, асабістай лесвіцай да Неба самааддане служэнне на карысць Каталіцкага Касцёла.*

*Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі*



# Ці магчыма павянчацца ў Касцёле з праваслаўным?

*"Хвала Хрысту! Я сустракаюся з маладым чалавекам. Ён праваслаўны. Не ведаю, як быць, калі пачнуцца размовы пра вянчанне. Ведаю, што з пункту погляду праваслаўя, каталікі — ерэтыкі. Мы не можам атрымаць шлюб у Касцёле? А калі давядзецца вянчацца ў праваслаўнай Царкве, то і дзяцей трэба выхоўваць у праваслаўнай традыцыі. Я супраць гэтага. Як паступіць у такой сітуацыі?"* Марыя

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Пры адказе на гэтае пытанне скарыстаемся сінадальнай душпастырскай дапамогай для нарачоных «Божае бачанне сужэнства і сям'і». Тут ёсць цэлы раздзел, прысвечаны змешаным сужэнствам. І там чытаем наступнае:

«Каталіцкі Касцёл не раіць вернікам ствараць змешаныя сужэнствы. На жаль, заключэнне такіх сужэнстваў вядзе да падзелу сям'і, да абыякавасці адносна Касцёла і веры, не развівае гармоніі сужэнскага жыцця, што прыводзіць да распаду сужэнства як сям'і. Як паказвае практыка, рэлігійнае жыццё ў мяшаных сужэнствах надзвычай слабае альбо ўвогуле адсутнічае. Вынікам гэтага з'яўляецца тое, што дзяцей, народжаных у такім сужэнстве, цяжка выхоўваць у веры каталіцкага Касцёла, і ў працэсе выхавання дзяцей узнікаюць шматлікія небяспечныя сямейныя канфлікты. Касцёл, беручы пад увагу дабро Божага люду, дабро будучых пакаленняў, натуральнае права ў заключэнні сужэнства і нараджэнні патомства, навуку св. Паўла апостала пра абавязак клапаціцца, абараняць і захоўваць чысціню веры (пар. Гал. 1,9; Ціт 3,10), паставіў пэўныя юрыдычныя патрабаванні, пасля выканання якіх дазваляе змешанае сужэнства.

Для заключэння змешаных сужэнстваў патрэбны дазвол адпаведных уладаў Касцёла – мясцовага ардынарыя, які пры наяўнасці слушнай і разумнай прычыны можа выдаць дазвол пры ўмове, што будуць выкананы наступныя патрабаванні (кан.1125):

■ каталіцкі бок павінен абвясціць, што гатовы адкінуць ад сябе небяспеку страты веры, а таксама даць шчырае абяцанне, што зробіць усё магчымае, каб усе дзеці былі ахрышчаны і выхаваны ў каталіцкім Касцёле;

■ другі бок павінен быць праінфармаваны ў адпаведны час аб дадзеных абяцаннях каталіцкага боку так, каб сапраўды быў ўсвядомлены змест гэтых абяцанняў і абавязкі каталіцкага боку;

■ абодва бакі павінны быць азнаёмлены з мэтамі і істотнымі рысамі сужэнства, якіх не можа выключыць ніводзін з бакоў.

> *Каталіцкі Касцёл не раіць вернікам ствараць змешаныя сужэнствы*

Сведчанні і гарантыі нарачоных прымаюцца ў канцы падрыхтоўкі да сакраманту Сужэнства. Гэты дакумент падпісвае пробашч, пацвярджае яго пячаткай і разам з заявай, напісанай ад імя нарачоных, прадстаўляе мясцоваму біскупу, каб атрымаць дазвол на блаславенне гэтага сужэнства.

У выпадку, калі нарачоны (нарачоная) некаталіцкай веры выразна паказвае, што будзе перашкаджаць і не дазволіць выканаць абавязкі нарачонаму (нарачонай) каталіцкай веры, пробашч павінен дакладна высвятліць гэтую сітуацыю і высветліць прычыны такой пазіцыі некаталіка (некаталічкі). Потым пробашч павінен яшчэ раз падрабязна растлумачыць сэнс сакрамантальнага сужэнства, яго асновы і заданні як «Хатняга Касцёла», ужываючы той аргумент, што хрысціянская сям'я пазбягае канфліктаў. Калі некаталіцкі бок не падпарадкуецца гэтым аргументам, справу неабходна перадаць біскупу-ардынарыю. Можна таксама звярнуцца ў Кангрэгацыю Сакрамантаў. І тады толькі ардынарый (ці Кангрэгацыя Сакрамантаў) дасць адказ: бласлаўляць ці ўстрымацца ад бласлаўлення гэтых нарачоных.

Як бачым, нават калі каталіцкі бок атрымлівае ад мясцовага ардынарыя дыспенсу ад кананічнай формы заключэння сужэнства (г.зн., шлюб можна будзе ўзяць у праваслаўнай царкве), то застаюцца вышэйпададзеныя патрабаванні адносна змешанага сужэнства. Таму фактычна немагчыма спачатку ў прысутнасці каталіцкага святара абяцаць выхаванне дзіцяці ў каталіцкай веры, а пазней, у прысутнасці праваслаўнага святара, абяцаць выхаваць дзіця ў праваслаўнай веры.

Дарагая сястра! Падсумоўваючы, хачу заахвоціць цябе, з аднаго боку, лепш пазнаць свайго будучага мужа (можа так стацца, што пры спакойным, разумным і поўным любові дыялогу ўсе супярэчнасці ў гэтым пытанні знікнуць), а з другога боку, абяцаю табе малітву і прашу, каб малілася сама аб ласцы Духа Святога і ніколі не згадзілася на сумеснае жыццё без сакрамантальнага бласлаўлення. Можа, шлях пошуку кампрамісу і няпрosты, бо патрабуе трывалай малітвы і змагання за праўду, але калі між вамі сапраўдная любоў, то адказ на гэтую праблему будзе Божым, які ніколі вас не раздзеліць, а, наадварот, прынясе супакой і радасць жыцця згоднага з сумленнем.

> *Для заключэння змешаных сужэнстваў патрэбны дазвол адпаведных уладаў Касцёла*

## Касцёл і крэмацыя

*"Як Касцёл ставіцца да крэмацыі?"* Яўгенія Раткевіч

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

–Катэхізіс Каталіцкага Касцёла дае выразны і кароткі адказ адносна крэмацыі: *«Крэмацыя дазваляецца Касцёлам у тым выпадку, калі яна не з'яўляецца выразам няверы ва ўваскрашэнне цела»* (2301).

Вызнанне нашай веры ў Бога Айца, Сына і Духа Святога і ў Яго творчае, выратавальнае і асвячальнае дзеянне знаходзіць сваю найвышэйшую кропку ў абвяшчэнні ўваскрашэння мёртвых у канцы часоў і жыцця вечнага. Верыць ва ўваскрашэнне мёртвых было асноўным элементам хрысціянскай веры ад самых ранніх яе часоў. *"Упэўненасць хрысціян – ва ўваскрашэнні мёртвых; у гэта веруючы, мы існуем"* (Тэртуліян).

*«Калі аб Хрысце гаворыцца, што Ён уваскрос з памерлых, дык чаму некаторыя з вас кажуць, што няма ўваскрэсення мёртвых? Калі няма ўваскрэсення мёртвых, дык і Хрыстос не ўваскрос. А калі Хрыстос не ўваскрос, дык дарэмнае навучанне нашае, ды дарэмная таксама вера вашая. (...)*

*Але цяпер Хрыстос уваскрос першы сярод памерлых»* (1 Кар. 15,12-14. 20).

## Ці можна павянчацца з тым, хто ўжо раней быў павенчаны?

*"Як паступіць у такім выпадку: маладыя людзі кахаюць адно аднаго і хочуць злучыць свае лёсы ў сужэнскім саюзе і ўзяць шлюб у царкве ці касцёле (адназначна не вырашана). Аднак ёсць перашкода, бо ў аднаго з іх ужо было вянчанне ў царкве? Што рабіць, калі, паводле Біблії, не можа ніхто другі раз жаніцца ці выходзіць замуж, калі ўжо вянчаны раней і мае жывога былога мужа ці жонку?"*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі, парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, Гарадок:**

– У справах шлюбу заўсёды трэба звяртацца да мясцовага душпастыра. Ён, распазнаўшы сітуацыю, можа падказаць, што рабіць: альбо звярнуцца ў касцельны суд і паспрабаваць даказаць несапраўднасць папярэдняга сужэнства, альбо ўстрымацца ад сумеснага жыцця без Божага бласлаўлення.

Кардынал Герхард Людвіг Мюллер, прэфект Кангрэгацыі веравучэння, прыгадвае, што асобы, якія зноў заключылі сужэнскі саюз (несакрамантальны), не могуць прыступаць да Святой Камуніі. *«Непарыўнасць кожнага сапраўдна заключанага і сакраментальнага сужэнства абсалютная. Справа ў дадзеным выпадку датычыць «Божай нормы», з якой Касцёл ні ў якім выпадку не можа рабіць выключэнняў»* – нагадвае Ватыканскі кардынал. Аднак Касцёл заўсёды адкрыты да тых хрысціян, чыё сужэнства скончылася няўдачай, і запрашае да малітвы і супрацоўніцтва з душпастырамі, каб калісьці настаў момант іх вяртання да актыўнага ўдзелу ў сакрамантальным жыцці.

Касцёл прапаноўвае наступныя шляхі вяртання да жыцця ў ласцы. У прыватнасці, прымірэнне сакрамантальных сужэнцаў і пакіданне тых асоб, з якімі існуе несакраментальная сувязь. Гэта, канешне, звязана з хрысціянскім прабачэннем і велікадушнасцю сэрца. Іншы шлях – адыход ад таго, з кім асоба жыве ў пазашлюбнай сувязі, і працяг жыцця ў самотнасці і сепарацыі ад сакрамантальнага сужэнца.

Атрыманне ад касцельнага суда рашэння аб несапраўднасці папярэдняга сужэнства.

Выпадкі, калі згодна з «Familiaris consortio» (п. 84) і з дакументам Кангрэгацыі веравучэння з 14 верасня 1994 г. (п. 4), разведзеныя сужэнцы, якія жывуць у несакрамантальных саюзах, могуць прыступаць да Камуніі пры выкананні наступных умоваў:

■ Прызнанне навукі Хрыста пра неразарвальнасць сакрамантальнага сужэнства і жаль праз тое, што яны сваім несакрамантальным саюзам сталі супраць волі Хрыста.

■ Немагчымасць разарваць сумеснае пражыванне з несакрамантальным сужэнцам па важных прычынах: выхаванне дзяцей ці апека над кімсьці з партнёраў.

■ Прыняцце абавязку жыцця ў поўным сэксуальным устрыманні.

■ Не можа быць небяспека згаршэння для парафіяльнай супольнасці. Таму з дазволу пробашча парафіі Камунію такія хрысціяне будуць прымаць толькі пры пэўных абставінах, у іншым касцёле ці пры адпаведных умовах.

> *Асобы, якія паўторна заключылі несакрамантальны сужэнскі саюз, не могуць прыступаць да Святой Камуніі*

## Ці можна ўдзельнічаць у Імшы ў суботу замест нядзелі?

*"Хвала Хрысту! Некалі чула, што прысутнасць на апошняй Святой Імшы ў суботу залічваецца, як удзел у нядзельнай Святой Імшы. Падкажыце, калі ласка, ці так гэта?"* Вікторыя



**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Са старажытных часоў у Касцёле святкаванне нядзелі і ўрачыстасцяў пачынаецца ўвечары напярэдадні. Гэтае святкаванне вечарам папярэдняга дня называецца вігіліяй. Каталікі абавязаны ўдзельнічаць у святой Імшы на ўсе нядзелі года і ў прадпісаныя ўрачыстасці. Згодна з першым параграфам канона 1248 актуальнага Кодэкса Кананічнага права, *"наказ удзелу ў святой Імшы выконвае той, хто ўдзельнічае ў ёй у любым месцы, дзе яна здзяйсняецца згодна з каталіцкім абрадам у сам святочны дзень або вечарам папярэдняга дня"*.

На гэтую тэму навучае папа Ян Павел ІІ у апостальскім лісце прысвечаным святкаванню нядзелі: *"Паколькі ўдзел у Імшы з'яўляецца для вернікаў абавязкам, ад якога іх могуць вызваліць толькі сур'ёзныя перашкоды, пастыры абавязаны забяспечыць усім рэальную магчымасць выканаць гэтую запаведзь. Такі накірунак маюць прадпісанні касцельнага права, напрыклад тыя, якія даюць права святару – калі ён мае дазвол ад дыяцэзіяльнага біскупа – цэлебраваць больш чым адну Імшу ў нядзелі і святочныя дні. Акрамя гэтага, дазваляе ўводзіць вячэрнія Імшы і, нарэшце, прадпісанні, якія дазваляюць выканаць нядзельны абавязак вечарам у суботу, пачынаючы з першых нядзельных Нешпараў. З літургічнага пункту гледжання святочны дзень распачынаюць менавіта першыя Нешпары. Такім чынам літургія, якую часам называюць "перадсвяточнай", з'яўляецца фактычна "святочнай" і здзяйсняецца паводле нядзельнай літургіі, таму цэлебрант абавязаны падчас яе казаць гамілію і чытаць малітву вернікаў"* (апостальскі ліст "Dies Domini" п. 49).

# Мы памятаем...



Ва ўзросце 57 гадоў 9 мая 2012 года памёр ксёндз Уладас Пятрайціс – шматгадовы пробашч Мёрскай парафіі, пазней – пробашч Слабодкаўскай парафіі і адміністратар Іказненскай парафіі.

Адышоў да Пана Бога спакойна і ціха. У 23 гадзіны апошні раз ударыла яго сэрца. Парафіяне памятаюць яго як старанната, адважнага, мудрага, адданага Касцёлу святара.

Ксяндзу У. Пятрайцісу было дадзена выпрабаванне: несці людзям Хрыста ў час, калі ў нас лютаваў ваяўнічы атэізм. Тэрыторыя яго святарскай дзейнасці была вялікай. На Мёршчыне былі дзве святыні: у Мёрах і Ідолце. Каля дзесяці парафій тады не мелі ні святара, ні святынь, і людзі са сваімі духоўнымі патрэбамі звярталіся да кс. У. Пятрайціса. І ён аддана служыў усім, забываючыся пра адпачынак.

За ўвагу да людзей яго паважалі і цанілі не толькі католікі, але і тыя людзі, якім пашчасціла ў жыцці пазнаёміцца і хоць адзін раз паразмаўляць з ксяндзом Уладасам Пятрайцісам.

Большасць яго парафіян запомнілі ксяндза як чалавека адкрытага, з добрай і шчаслівай усмешкай на твары. У яго была яшчэ адна рыса, якая сведчыла пра высокі ўзровень яго ўнутранай дысцыпліны – надзвычайная пунктуальнасць, якая не дазваляла святару спазняцца. Ксёндз заўсёды спяшаўся. Спяшаўся жыць, працаваць, служыць Богу і людзям.

Прайшло два гады, як ксяндза Уладаса Пятрайціса няма сярод нас, а мы памятаем пра яго, гаворым з вялікай удзячнасцю і цяплом. У гэты дзень, 9 мая, мы давяраем свае малітвы і цярпенні ў інтэнцыі душы памерлага ксяндза.

Вечны адпачынак дай Яму, Пане...

*Алена Сакалоўская*

# Святарам

*Пакліканне – дар Божы, таямніца,*
*Якая нараджаецца ў душы,*
*Каб небу Вы за нас маглі маліцца,*
*Касцёлу з Божай ласкаю служыць.*

*Айцец Вас выбраў – моцных і сумленных,*
*Аддана каб трывалі ў Хрысце.*
*Каб неслі людзям радасць Евангелля,*
*Што ў сэрцах шчырай верай прарасце.*

*Святарскі шлях – ахвярны і няпросты:*
*Душпастыр Вы, дызайнер, будаўнік.*
*Непадуладны часу і ўзросту*
*Натхнёны і нястомны працаўнік.*

*Перажываць святыя сакрамэнты,*
*Ісці дарогай еднасці з Хрыстом,*
*Прасіць апекі Маці Збаўцы свету –*
*Святар нас вучыць праз усё жыццё.*

*Святар – дарадца, мудры і цярплівы,*
*У час патрэб звяртаемся да Вас.*
*Каб шчырым словам, часам жартаўлівым,*
*Вы па-бацькоўску падтрымалі нас.*

*Каб слабым, церпячым прыйсці на дапамогу,*
*Засведчыць хворым Божую любоў,*
*Спакой прынесці, адагнаць трывогі –*
*З надзеяй мы ідзём да святароў.*

*Каб моладзь марна не блукала ў цемры,*
*Знайшла дарогу Праўды і Святла,*
*Мацуеце ёй словам Божым веру,*
*Малітвамі ратуеце ад зла.*

*Прыміце сёння нашы віншаванні,*
*Паклон падзякі нізкі, да зямлі.*
*Здароўя Вам, благаслаўлення Пана,*
*Апекі Маці Божай, цеплыні!*

*Каб кожны дзень, асветлены дарамі*
*Святога Духа, Праўдай адкрыцця,*
*Віталі мы сардэчна разам з Вамі!*
*Вам доўгіх і шчаслівых год жыцця!*

***Марыя Януш**, агр. Крулеўшчына*



# Настоятель всё задуманное доводит до конца

**Слава Иисусу Христу!**

В настоящее время настоятелем нашего прихода в Камаях (Поставский район) является кс. Яцек Хутман. Он у нас служит уже 11 лет. Кс. Яцек одинаково относится к людям разных вероисповеданий, к богатым и бедным, к верующим и неверующим. С первых дней своей деятельности священнослужитель занялся изучением истории храма и наметил планы работ на десятилетия вперёд. Первоначально кс. Яцек взялся за наведение порядка в костёле, а затем занялся благоустройством. Проведен очень большой объём работ. Сложности встречались постоянно, но настоятель всё задуманное доводит до конца. Сколько энергии, инициативности у нашего ксендза! Он не только вносит предложения, но и постоянно работает вместе со всеми. Его рабочий день начинается с рассвета.

Кс. Яцек сотрудничает с районными властями, постоянную помощь также оказывают руководители ОАТ «Камаи-агро» и сельский совет. По инициативе нашего настоятеля благоустроен сквер в центре посёлка, очищены и благоустроены все кладбища прихода, открыт туристический маршрут в наш храм. Очень много, особенно в летнее время, у нас туристов не только из Беларуси, но и из других стран. Многие изъявляют желание обвенчаться или окрестить детей в нашем костёле. Наш настоятель кс. Яцек Хутман объявлен Человеком года Поставщины и занесен на доску почёта района.

Мы постоянно обращаемся с молитвой к Господу, чтобы кс. Яцек остался в Камаях надолго и смог осуществить все намеченные планы. Желаем ему крепкого здоровья и Божьей помощи.

***Янина Кулеш**,*
*агрогородок Камаи*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**27 красавіка 2014 г. Ян 20, 19-31**

Змёртвыхпаўстанне Езуса прыносіць нам супакой. Бог адорвае нас ласкай міласэрнасці. Выбаўляе нас ад улады граху. Мы павінны несці гэтую добрую навіну свету, заахвочваць іншых, каб яны, як і мы, скарысталіся Хрыстовай перамогай. Каб прыйшлі да Змёртвыхпаўсталага і прысутнага ў супольнасці Касцёла Езуса. Каб атрымалі адпусканне грахоў. Трэба, каб мы паверылі, што прабітыя рукі і бок Езуса з'яўляюцца асабіста для кожнага крыніцай ацалення. Паверылі сведчанню Касцёла, апосталаў і сведкаў. І самі сведчым пра тое, што бачылі і што Бог зрабіў у нашых сэрцах.

*– Ці адкрыў я сваё сэрца Езусу падчас святаў?*
*– Ці дазволіў Яму ўвайсці ў цемру грабніцы маіх грахоў?*
*– А можа, думаю, што нічога не было? Што ўсе грахі і зло глыбока схаваныя, а майму сэрцу не патрэбна аздараўленне?*
*– Ці памятаю, што сапраўдная любоў вырастае з Божага прабачэння маіх грахоў?*
*– Якой ёсць мая вера?*
*– Ці веру, што Езус – пераможца?*
*– А можа, думаю, што мае грахі і праблемы перарастаюць моц Езуса?*
*– Ці добра карыстаюся дарам Святога Духа, дадзенага для адпускання грахоў?*
*– Ці фармую сваё сумленне паводле Божай волі?*
*– Ці слухаю сваё сумленне і ці жыву паводле яго?*
*– Ці рэгулярна спавядаюся?*
*– Ці клапачуся пра выкананне Божай волі?*
*– Ці вяду духоўнае жыццё?*
*– Ці маю духоўнага настаўніка?*
*– Ці давяраю Езусу?*

**4 мая 2014 г. Лк 24, 13-35**

Вера ёсць працэс. Прыкладам гэтага з'яўляецца дарога вучняў у Эмаус. Божае слова – гэта святло ў дарозе. Але толькі Езус дапамагае правільна Яго зразумець. Ён і Яго справы растлумачваюць сэнс Божага слова. Важна запрасіць Езуса да свайго жыцця. Каб Ён стаў гаспадаром нашай штодзённасці. Яго прысутнасць можна ясна ўбачыць у Эўхарыстыі. Важна дзяліцца вопытам веры з бліжнімі.Так расце і ўмацоўваецца супольнасць. І тады рэалізуецца надзея, але ўжо па-новаму, па-Божаму.

*– Ці мая надзея на Езусава збаўленне спраўдзілася?*
*– А можа, я расчараваны Яго справай збаўлення?*
*– Ці было маё спадзяванне мудрым?*
*– А можа, не бачу прысутнасці Бога ў маім жыцці, так, як не бачылі яе вучні Хрыста, ідучы ў Эмаус?*
*– А можа, я празмерна прывязаны да свайго разумення Езусавай справы збаўлення?*
*– Ці слухаю Божае слова?*
*– Ці шукаю ў Божым слове разумення таго, што Бог робіць у маім жыцці?*
*– Ці дазваляю Езусу растлумачыць мне незразумелае?*
*– Ці гляджу на збаўленне так, як Езус?*
*– Ці маю ўсведамленне, што вера – гэта дарога, працэс і развіццё?*
*– Ці запрашаю Езуса да дому свайго сэрца?*
*– Ці дазваляю Яму быць у ім гаспадаром?*
*– Ці шукаю Яго прысутнасці і блізкасці на Святой Імшы?*
*– Ці дзялюся верай і ці слухаю сведчанне братоў?*
*– Ці шукаю Бога ў супольнасці вернікаў?*
*– Ці будую супольнасць?*

**11 мая 2014 г. Ян 10, 1-10**

Езус – добры пастыр. Толькі Ён вядзе нас да жыцця. Толькі Ён можа прывесці нас да Айца. Ён клапоціцца пра нас. Добры вучань – гэта той, які давярае Езусу. Які ідзе за Яго голасам і не ідзе за чужым. Езус ведае імя кожнага з нас і мае для нас індывідуальны план. Ён ідзе перад намі праз цярпенні і смерць дарогай вернасці Айцу, каб давесці нас да перамогі, да ўдзельніцтва ў Яго Змёртвыхпаўстанні.

*– Ці веру, што Бог хоча майго дабра?*
*– Ці веру, што Ён ведае дарогу, якая вядзе да сапраўднага шчасця?*
*– Ці не спрабую знайсці шчасце, любоў, радасць і збаўленне па-за Езусам або насуперак Яму?*
*– Ці веру, што Ён асабіста клапоціцца пра маё жыццё, пра маё сэрца і маю любоў?*
*– Ці давяраю Яму?*
*– Ці іду за Ім сярод розных небяспек?*
*– А можа, іду за наветамі злога?*
*– Ці разумею, якой небяспекай можа стаць наследаванне злога пастыра?*
*– Ці разумею, што непаслухмянасць Езусу прывядзе мяне не толькі да небяспекі на зямлі, але і да вечнага няшчасця ў пекле?*
*– Ці шукаю Божага плану адносна майго жыцця?*
*– Ці жыву паводле яго?*

**18 мая 2014 г. Ян 14, 1-12**

Езус – дарога да Айца. Ён у еднасці з Айцом. Сустракаючыся з Езусам, мы сустракаемся з жывым Богам. У Езусе Бог стаў блізкі і даступны для нашага дотыку. Справы Езуса з'яўляюцца для нас знакам Яго Боскасці. Вера ў Езуса зробіць нас здольнымі да вялікіх спраў, бо мы будзем у еднасці з Богам. Яго слова вядзе дарогай збаўлення. Ён праводзіць нас да паўнаты жыцця.

*– Ці памятаю, што мая вера – гэта важная справа?*
*– Ці разумею, што навука Езуса – гэта не мёртвы закон, але воля Бога?*
*– Ці не стаўлюся да навукі Езуса легкадумна?*
*– Ці не спрабую пабудаваць дарогу свайго жыцця па-за Езусам, без Яго?*
*– Ці бачу Божае дзеянне ў свеце?*
*– Ці прыкладаю намаганні, каб убачыць Божую інтэрвенцыю і Божыя цуды ў маім жыцці і ў жыцці іншых?*
*– Ці супрацоўнічаю з Божай ласкай?*
*– Ці дазваляю Богу, каб праз мяне любіў свет, збаўляў людзей, дапамагаў тым, хто церпіць?*
*– Ці праяўляецца ў маіх справах Божая прысутнасць у маім сэрцы?*
*– А можа, сваімі страхамі, пыхай і гультайствам я перашкаджаю ў будаванні Божага Валадарства ўва мне і вакол мяне?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Спрайт на Імшы,

## або Што рабіць, калі храпяць міністранты?

**Міністрант – гэта хлапчук, юнак, які прыслужвае святару падчас набажэнстваў. У сённяшнім нумары хлопцы раскажуць "Каталіцкаму Весніку" цікавыя выпадкі са свайго служэння.**

*Ірына Грэйць*

**Антон Доўнар:**
– Часта на служэнні здараюцца так званыя "касякі". Падчас маёй міністранцкай дзейнасці здаралася шмат гісторый, на якія немагчыма забыцца. Адна з такіх гісторый адбылася са мною год назад, калі ў нашай барысаўскай парафіі быў пробашчам айцец Вячаслаў Пялінак.
Быў вечар. Святая Імша. Айцец пачаў прапаведаваць, і тут я заўважыў, што адзін міністрант пачаў засынаць. "Што рабіць", – думаю я? І тут вырашыў стукнуць яго нагой, пасля чаго ён прачнуўся. Але каб жа гэтым скончылася. Праз некалькі хвілінак ён зноў пачаў спаць. Я падумаў, што, калі ён нікому не перашкаджае, хай паспіць. Але праз некаторы час ён пачаў нахіляцца назад і стукнуўся аб батарэю. Усе міністранты сталі рагатаць. А ксёндз Вячаслаў, павярнуўшыся, спытаў: "Дзе там што звалілася?" Тут і парафіяне пачалі смяяцца. Калі зараз прыпамінаю гэту гісторыю, то заўсёды ўсміхаюся.

**Аляксандр Сінкевіч:**
– Калі я вучыўся яшчэ ў школе, то быў вельмі адказным міністрантам і, як казалі сябры, меў "паблажкі". І вось аднойчы, калі ў Мёрах праходзіла спатканне святароў, закрыстыянін** папрасіў дапамагчы паслужыць. Калі я ўвайшоў у касцёл, то разгубіўся, бо ніколі не бачыў столькі многа святароў. Пасля служэння да мяне падышоў біскуп і сказаў, што я добры чалавек і маю светлую будучыню. Ад таго часу, за што я вельмі дзякую Богу, я стараўся шчыра служыць, затым стаў лектарам. А год назад – закрыстыянінам парафіі.

**Уладзіслаў Чаранок:**
– Аднойчы мы вярталіся з сустрэчы моладзі, што праходзіла мінулай зімой у Полацку. Па планах, дома, у Шуміліне, яшчэ была запланаваная Імша. Пасля дарогі мы былі змучаныя і сонныя. І вось, калі ксёндз пачаў гаварыць казанне, я пачуў справа ад сябе храп. Гэта быў мой сябра, які заснуў. Астатнія таксама пачулі, бо людзей было няшмат. Усе пачалі смяяцца, і ён раптам усхамянуўся, не зразумеўшы, у чым справа. Толькі потым я распавёў яму, чым выклікала ўсмешкі на тварах вернікаў.

*плябанія – дом святара.
**закрыстыянін – дарослы міністрант, часта – мужчына сталага ўзросту, які адказны за парадак у закрыстыі і міністранцкую службу.

**Антон Паплёўка:**
– Аднойчы перад адпустовай Імшой адбылася вельмі цікавая гісторыя. Як заўсёды, распальвалі кадзіла. Напэўна, кожны міністрант ведае, што, каб вуглі лепей гарэлі, кадзільніцу трэба раскручваць. І ў той раз раскручвалі, раскручвалі – і тут адбылося тое, чаго ніхто не чакаў. Некалькі кольцаў з кадзільніцы разарвалася, і палялцелі вугалькі, а з імі і часткі кадзільніцы па ўсім садзе, што быў побач. Вядома, у траве хутка рэчаў маленькіх не знойдзеш, але, дзякуй Богу, міністранты зоркія, хутка ўсё пазнаходзілі і нават паспелі да пачатку Імшы. Другім жа разам адбылася сітуацыя не менш драматычная… У закрыстыі скончылася вада для Імшы. І аднаму з міністрантаў сказалі: "Збегай у плябанію* па ваду". Ён і пабег. А ў плябаніі на стале стаяла бутэлька спрайту. І ён, як пазней аказалася, падумаў, што гэта простая вада, набраная ды падрыхтаваная ксяндзом. Вось так на Імшу і налілі замест вады спрайт… На шчасце, ксёндз своечасова зразумеў што да чаго ды зрабіў усё, як мае быць.

**Ян Буко:**
– З маленства я хацеў стаяць пры алтары, і ў 6 гадоў мая мара спраўдзілася. Праз 8 год я ўжо стаў галоўным міністрантам у парафіі. Распавяду цікавы выпадак, які адбыўся адносна нядаўна. Я тады прыслугоўваў на Імшы ў Віцебску, дзе адбывалася кансэкрацыя біскупа Алега Буткевіча. За сваё жыццё я ні разу не бачыў, як праходзіць такая ўрачыстасць, і гэта было вельмі цікава для мяне. Калі мы прыехалі ў Віцебск з сябрам, нам паведамілі, што мы будзем трымаць мітру і пастарал біскупа. Для мяне гэта было вялікай радасцю, бо ўсю Імшу мы стаялі побач з усімі біскупамі. А яшчэ я ганаруся тым, што біскуп Алег нарадзіўся на Браслаўшчыне, на маёй Радзіме. Гэтая Імша назаўсёды застанецца ў маім сэрцы.

### Дзякуем святару за паслугу!

*У нашу парафію Унебаўзяцця НМП і св.Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, у Мёрах 1 жніўня 2013 года быў прызначаны вікарыем кс. Антоній Лагунёнак. Гэта святар, які глыбока ведае духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Ён адразу спадабаўся парафіянам і для многіх стаў прыкладам самаахвярнага служэння Богу і людзям. Кожнае яго слова моцна западае ў душу. Да ксяндза Антонія хіліліся і старыя, і дзеці, і асабліва моладзь, бо ён умеў дзяліць з кожным і гора, і радасць.*

*Няхай добры Бог асвеціць зямны шлях нашага былога вікарыя і цяпер ужо пробашча ў парафіі ў Дзеркаўшчыне, куды яго 29 сакавіка накіраваў на працу біскуп Алег Буткевіч. Мы жадаем, каб праз казанні кс. Антонія, праз дапамогу словам кожная душа магла радавацца і вучыцца быць спагадлівай і міласэрнай. Няхай новыя вернікі святара Антонія праз яго паслугу атрымаюць магчымасць ісці з Богам усё сваё жыццё і заўжды адчуваць сябе часткай паўсюднага Касцёла.*

*Нізка кланяемся і дзякуем нашаму былому душпастыру за яго словы навяртання, за яго залатыя рукі, за старанне і за ўсё, што было ім зроблена хоць і за кароткі, але вельмі насычаны любоўю і дабрынёй час прабывання ў Мёрах. Няхай Усемагутны Бог дапамагае яму ва ўвасабленні жыццёвых планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за добрага і ўлюбёнага нашага святара перад Божым тронам, хай ахінае сваёй апекай і прытуляе да свайго Матчынага сэрца. Няхай Езус Хрыстус адорвае бацькоўскай кс. Антонія за іх сына патрэбнымі ласкамі і моцай сваёй любові на доўгія гады.*

***Аляксандр Сінкевіч** – ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка*

### Дзякуй за дапамогу!

*Чалавек найбольш бывае самотны, калі хварэе, калі церпіць. Але, дзякуй Богу, ёсць неабыякавыя людзі, якія не пакінуць такога чалавека сам-насам з гэтай вялікай праблемай. Менавіта для такіх людзей хачу папрасіць у Пана Бога найвялікшых ласкаў і праз газету «Каталіцкі Веснік» скласці вялікую падзяку пробашчу нашай Полацкай парафіі кс. Францішку, а таксама кс. Вячаславу Адамовічу, які пэўны час працаваў у нашым касцёле. Адначасова сардэчна дзякую сястры Валянціне Арсоба, сёстрам-эўхарысткам: с. Наталлі Марозавай, с. Анне Мізавец. Няхай Добры Бог шчыра ўзнагародзіць іх за малітву, духоўную навуку, мудрыя словы, а таксама за матэрыяльную і фізічную дапамогу для мяне, інваліда 2 групы.*

*З падзякай, Ядвіга Альхімёнак – парафіянка касцёла святога Андрэя Баболі ў Полацку*

### Шчыры дзякуй!

*У нашай парафіі Спаслання Святога Духа ў Барысаве з 4-га па 6-га красавіка адбываліся рэкалекцыі. Праводзіў іх ксёндз Канстанцін Анашка з Жодзіна. Малады святар вельмі ўразіў нашых парафіян сваімі казаннямі, споведдзю. Здавалася, што кожнае яго слова вылівалася з сэрца. Шчыра дзякуем паважанаму кс. Канстанціну і жадаем, каб ён на нялёгкім святарскім шляху не страціў любоў да Бога і парафіян. Няхай Пан Бог адорыць яго ўсімі патрэбнымі ласкамі.*

*Вернікі парафіі Спаслання Святога Духа, г. Барысаў*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
Заснавальнік: мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
Выдавец: рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
Галоўны рэдактар: кс. Віктар Місевіч
Тэхнічны рэдактар: Дзмітрый Лупач
Рэдактар сайта: Марына Сінкевіч
Карэктары: Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная на каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 3203
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3400 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 21.04.2014 г. у 17.46
Юрыдычны адрас: 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
Адрас для карэспандэнцыі: 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл. Тэл.: 8(02156)2-32-60
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621
9 772224 962006
Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ